# КРЫВІНКА

ЖНІВЕНЬ
№ 12 (202)
2017 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




ІНВЕСТЫЦЫІ

# КАМПАНІІ З ПЯЦІ КРАІН ГАТОВЫ БУДАВАЦЬ НОВУЮ ГЭС

**З-за дажджоў узровень вады ў Заходняй Дзвіне значна вырас. Гэта дазваляе атрымліваць значна больш энергіі. Полацкая гідраэлектрастанцыя за першы месяц выпрацавала больш за дзесяць мільёнаў кілават. Літаральна на днях запусцілі яшчэ адну - Віцебскую. На чарзе будаўніцтва трэцяй пад Бешанковічамі, якая завершыць каскад гідраэлектрастанцый на Заходняй Дзвіне. Пра сваё жаданне ўдзельнічаць у праекце ўжо заявілі кампаніі з пяці краін.**

На некаторых участках Заходняй Дзвіны ўзровень вады вырас на дзесяць метраў. Яшчэ нядаўна раку ў многіх месцах можна было перайсці ўброд. Цяпер водная артэрыя - гэта важная для Віцебскай вобласці крыніца аднаўляльнай энергіі. Дзве гідраэлектрастанцыі - Віцебскую і Полацкую - ўвялі ў эксплуатацыю з розніцай у месяц.

Сёння ўся Заходняя Дзвіна тут цячэ па велізарным трубах, усярэдзіне якіх размешчаны турбіны, якія за адну секунду прапускаюць 65 кубоў вады. Гэта параўнальна з адным чыгуначным вагонам.

На будаўніцтва Полацкай ГЭС сышло шэсць гадоў. Ніжэй за ўзровень вады - будынак у дзевяць паверхаў. Высокатэхналагічным абсталяваннем дыспетчар кіруе адным рухам рукі. Мікалай Колбун, начальнік змены Полацкай ГЭС: «Шмат хто скардзяцца на дрэннае надвор'е гэтым летам, а для нас у плане выпрацоўкі электраэнергіі гэта вельмі добра. У нас на дадзены момант патрэбны напор, на якім турбіны могуць працаваць на максімальнай магутнасці, а колькасць вады такая, што дазваляе працаваць адразу пяццю турбінамі».

За першы месяц эксплуатацыі Полацкая ГЭС забяспечыла электраэнергіяй каля 60 тысяч спажыўцоў. Віцебская станцыя амаль у два разы больш магутная. Чатыры гідравузлы выдаюць 40 мегават. Спецыяльныя датчыкі рэагуюць на найменшыя змены ў працы турбіны, у выпадку чаго аўтаматыка адразу блакуе агрэгат. Дзмітрый Вірзабаў, начальнік змены Полацкай ГЭС: «На кожным гідраагрэгаце парадку 40 абарон як па вібрацыі, так і перагрэву, па тэмпературы падшыпнікаў, частаце току».

Ўзводзілі Полацкую і Віцебскую гідраэлектрастанцыі за кошт расійскіх і кітайскіх крэдытных рэсурсаў. Агульны аб'ём інвестыцый каля 300 мільёнаў даляраў. Вялікія ўкладанні, але эксперты адзначаюць, што яны выгадныя і доўгатэрміновыя. Сучасныя станцыі могуць працаваць 100 гадоў.

Цуй Баоюань, галоўны інжынер будаўніцтва Віцебскай ГЭС: «Віцебская ГЭС абсталявана па апошнім слове навукі, тут прыменена высокая ступень тэхналагічных абарон. Збудаванне унікальнае па сваіх характарыстыках, каля гідраэлектрастанцыі створаны шлюз, які дазволіць і далей выкарыстоўваць гэты ўчастак ракі для суднаходства».

На чарзе будаўніцтва яшчэ адной гідраэлектрастанцыі - Бешанковіцкай. І тут акцэнт не на крэдытныя рэсурсы, а на прамыя інвестыцыі. Патрэбен інвестар, які ўкладзе капітал, а затым будзе сам эксплуатаваць станцыю і прадаваць электраэнергію. У аблвыканкаме адкрыты прыём заявак. Жадаючы нямала.

Павел Харытонаў, намеснік генеральнага дырэктара прадпрыемства "Віцебскэнерга": "Вялікую цікавасць праяўлялі кампаніі з Чэхіі, Славеніі, Расійскай Федэрацыі, Турцыі і Кітая. А хто апынецца пераможцам, я думаю, мы даведаемся ўжо ў хуткім часе».

Каскад з трох гідраэлектрастанцый на Заходняй Дзвіне сумарна будзе выпрацоўваць амаль 100 мегават. Энергія вады дасць магчымасць штогод эканоміць больш за 80 тысяч тон умоўнага паліва. Калі ўлічваць сённяшнія кошты на прыродны газ, то гэта амаль 25 мільёнаў долараў.

**Канал АНТ**

********

*Я вярнуся назаўжды*
*ў родны дом за гаем,*
*і на тое ў мяне ёсць*
*важкіх шмат прычын:*
*там жыве мая туга,*
*што мяне чакае,*
*як бы я не спрабаваў*
*ад яе ўцячы.*

*Там вісіць з вясёлкай дождж,*
*а начамі знічкі,*
*быццам яблыкі, ляжаць,*
*свецяцца ў траве.*
*Там закружыць на мяжы*
*ў белым вальсе дзічка,*
*там у яблынь між галін*
*маладзік жыве.*

*Там на ложку ціха спяць*
*сны майго дзяцінства,*
*там сярод усіх сяброў*
*месца ёсць і мне.*
*А над хатай клён стары*
*ў строях серабрыстых,*
*згледзіўшы мяне здалёк,*
*галавой кіўне.*

*І счарсцвелая душа*
*памякчэе ўмомант,*
*і заплача, як дзіця,*
*шчыра і ўзахліп –*
*я прыйду з усіх дарог*
*назаўжды дадому,*
*бо існуе прыцягненне*
*роднае зямлі.*

**Г.Станкевіч**



ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

# 20 Ц /ГА – ПОСПЕХ ЦІ ПАРАЖЭННЕ?

**У Бешанковіцкім раёне сем вялікіх сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Гэта ЗАТ "АСБ -Агра Наватар", тры дзяржаўныя прадпрыемствы – "ДраздыАгра", "ПлісыАгра" і "ПалітаддзелецАгра", унітарнае прадпрыемства "Вядзерава", ААТ "Бешанковіцкі Агасервіс" і філіял "Свіціна ВМК" віцебскага мясакамбіната. Менавіта яны забяспечваюць тыя тысячы намалочаных тон, якімі так ганарыцца наш раён.**

Толькі ці ўсім прыходзіцца ганарыцца гэтымі лічбамі?

У ДП «ПлісыАгра», дзе збожжавымі і зернебабовымі культурамі занята 1155 га, на ўборцы шчыруюць шэсць камбайнераў. На 23-га жніўня тут убрана 65% плошчаў. Пры ўраджайнасці 20,9 ц /га ў гаспадарцы сабралі больш за 1,5 тысячы тон хлеба.

Заўважце, што 65% плошчаў пры ўраджайнасці 20,9 ц /га тут убралі з пачатку жніўня пры выдатным надвор'і. Зараз жа на полі застаецца яшчэ 400 гектараў збожжавых, якія пры самых аптымістычных раскладках не дадуць ураджаю вышэй за 15 ц /га. У сярэднім на фінішы атрымаецца не больш 17 ці 18 ц /га.

Думаецца, падобны малюнак назіраецца і на сельгаспрадпрыемстве ААТ"Бешанковіцкі Агасервіс", якое ўвесну ледзьве не прызналі банкрутам, але пакуль што пакінулі. Ягонымі зарослымі пустазеллем палямі можна праехаць і сёння, калі звярнуць у сокараўскую глыбінку.

Ствараецца ўражанне, што бешанковіцкія земляробы шчыруюць у асноўным уздоўж цэнтральнай дарогі Мінск – Віцебск. Менавіта сюды накіравана ўвага раённага начальства, якое карчуе прыдарожныя кусты і праводзіць адну меліярацыю за другой, раўняючы кожную западзіну. А вось гаспадаркі, якія ляжаць на перыферыі раёна, ледзьве дыхаюць.

Там пазачынялі школы, бібліятэкі, клубы, пошты і ФАПы. Там няма ні добрай тэхнікі, ні механізатараў. Там прыходзяць у заняпад і знікаюць з карты адна за другой вёскі, зарастае пустазеллем зямля. А, галоўнае, вярнуць да жыцця тыя вёскі нельга ніякім прэзідэнцкім указам.

Пры існуючай сістэме гаспадарання яны ўжо не ўзродзяцца. Пакуль наша жыццё вызначае чыноўнік, ніводная беларуская вёска не мае ніякай перспектывы. Працэс у зваротным кірунку пачнецца толькі са з'яўленнем гаспадара, то-бок прыватнай уласнасці на зямлю. Але да таго часу многія з нас не дажывуць.

**А.Тутэйшы**

НАША ЖЫЦЦЁ

# У БЕШАНКОВІЧАХ – НОВЫ КІРАЎНІК РАЁНА

**9-га жніўня на пазачарговай сесіі Бешанковіцкага раённага Савета дэпутатаў на пасадзе старшыні райвыканкама зацверджаны Андрэй Булаўкін.**

- Калі няма моцнага лідэра, то не будзе і моцнага калектыву, - перакананы старшыня аблвыканкама Мікалай Шарстнёў. У прывітальным слове да новага кіраўніка раёна ён парэкамендаваў працаваць ўдумліва, на перспектыву, ня угрузаючы ў цякучцы, без паказухі.

На жаль, канстатаваў Мікалай Мікалаевіч, Віцебская вобласць сёння з'яўляецца датацыйнай. Мы выкарыстоўваем грошы, якія нам дае дзяржава, то-бок трацім больш, чым зарабляем. Не з'яўляецца выключэннем і Бешанковіцкі раён. Да прыкладу, у 2016 годзе ў бюджэт раёна паступіла 19,8 млн рублёў, 49,8% з іх - датацыі. Правальвае сёлета рэгіён і па асноўных паказчыках, але да канца года яшчэ ёсць час сканцэнтравацца і падцягнуцца, а патэнцыял і рэзервы тут ёсць.

- Але трэба дасягаць паказчыкаў не дзеля іх саміх, а дзеля таго, каб папаўняўся бюджэт і ў выніку паляпшалася якасць жыцця насельніцтва, - падкрэсліў старшыня аблвыканкама.

Можна казаць пра розныя паказчыкі ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці і гэтак далей, але ўсё зводзіцца да матэрыяльных складнікаў. А пакуль статыстыка кажа пра тое, што моладзь з'язджае ў пошуках працоўных месцаў з годнай заработнай платай, каб была магчымасць ўтрымліваць маладую сям'ю, бо добра жыць хоча кожны.

- Нягледзячы на цяжкасці, у Беларусі захавана сацыяльная накіраванасць бюджэту. У структуры расходаў удзельная вага фінансавання сацыяльнай сферы 76,6%. Але нам хацелася б, каб і ў шпіталях, і ў паліклініках ўмовы былі лепшымі. Школы ў нас таксама пакуль не на вышэйшым узроўні, не ўсюды абсталяваны сучасныя класы. Таму сродкі павінны ўкладвацца кропкава. Не можам пераабсталяваць цэлую школу? Давайце ўкладзём грошы ў адзін клас, але зробім яго з іголачкі. Міграцыя працаздольнага насельніцтва - гэта лакмусавая паперка нашай працы, - настаўляў новага старшыню райвыканкама Мікалай Шарстнёў.

Работа ўлады будзе ацэньвацца

*(працяг на стар. 2)*

НАША ЖЫЦЦЁ

*(пачатак на стар. №1)*
па тым, як ахвотна людзі застаюцца, ці створаны працоўныя месцы, умовы для зараблення грошай, ці ёсць дзе атрымаць адукацыю, правесці вольны час.

Старшыня аблвыканкама таксама акцэнтаваў увагу на тым, што паказчыкі ў сельскай гаспадарцы вобласці можна падвоіць і патроіць, калі ўдасканальваць тэхналогіі.

- Чаму ў скандынаўскіх краінах атрымліваюць ураджай 90 цэнтнераў збожжа з гектара, а мы не ўсюды дацягваем да 30? Чаму там надойваюць 10 - 11 тон малака на карову, а ў нас 3 - 4? Значыць, нешта мы робім няправільна, - падкрэсліў кіраўнік вобласці.

Мікалай Шарстнёў нацэліў і на развіццё прамысловасці, прычым не толькі вялікіх вытворчасцяў. Трэба ствараць умовы, дапамагаць кожнаму, хто жадае арганізаваць сваё прадпрыемства, няхай гэта будзе дробны ці сярэдні бізнэс, і не ствараць бюракратычных перашкод.

Андрэй Булаўкін падзякаваў за аказаны яму давер дэпутатам, старшыні аблвыканкама і Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, які ўзгадніў яго кандыдатуру на пасаду старшыні Бешанковіцкага райвыканкама, і паабяцаў, што паспрабуе выканаць усе наказы. Першае, што неабходна, да 20-га жніўня якасна завяршыць у раёне ўборачную кампанію. Акрамя гэтага, трэба ўзяць пад кантроль праблемныя прадпрыемствы, прадумаць, як прыцягваць і замацоўваць маладых спецыялістаў, прааналізаваць перспектыўныя напрамкі развіцця бізнесу не толькі ў Бешанковічах, але і аграгарадках раёна. Таксама Андрэй Булаўкін сказаў, што будзе надаваць больш увагі ЖКГ - якасці аказваемых паслуг, а таксама навядзенні парадку на зямлі.

Даведка "ВВ".

Андрэй Анатольевіч Булаўкін нарадзіўся 30 ліпеня 1979 гады ў Оршы. Працоўную дзейнасць пачаў у 1999-м брыгадзірам у калгасе імя Заслонова, дзе потым працаваў аграномам-аграхімікам. У 2001-м такую ж пасаду заняў на УСХП «Забалоцце» і дайшоў да галоўнага агранома. З 2007 па 2009-ы быў старшынёй СХПК «Роскі Сялец». З 2009-га працуе ў Бешанковіцкім раёне. Да новага прызначэння працаваў намеснікам начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама. Дэпутат раённага Савета дэпутатаў.

**Алена Алімава**
**"Віцебскія весці"**

НАША ГІСТОРЫЯ

# УЛА БЫЛА МОЦНАЙ КРЭПАСЦЮ

**440 гадоў таму пасёлак Ула Бешанковіцкага раёна атрымаў Магдэбургскае права. Калісьці гэта быў горад.**

Старшы навуковы супрацоўнік Навукова-тэхналагічнага парка БНТУ «Палітэхнік» Максім Макараў кажа, што Ула, як і Сураж, мае ўнікальную гісторыю з'яўлення. Гэта адзін з нямногіх гарадоў на тэрыторыі сучаснай Беларусі, які з'явіўся дзякуючы не рамёствам і гандлю — яго пабудавалі ў ваенных мэтах:

— У гістарычнай літаратуры звычайна сцвярджаецца, што Ула ўзнікла ў XV стагоддзі. Аднак гэта не так. Сучасную Улу нельга блытаць з прыватным мястэчкам пад той жа назвай, якое існавала ў першай палове XVI стагоддзя прыблізна за 35 кіламетраў на поўдзень. Да пачатку ж 1560-х гадоў на вельмі зручным месцы — пры сутоках суднаходных рэк Улы і Заходняй Дзвіны — не было ні замка, ні гарадскога паселішча.

У лютым 1563 года войскі цара Івана IV захапілі Полацк і разбурылі сістэму абароны ВКЛ на землях Падзвіння. Улады дзяржавы мусілі спешна ўзводзіць шэраг новых умацаванняў.

Пільную ўвагу звярнулі на мыс пры ўпадзенні Улы ў Дзвіну. Ён набыў выключнае стратэгічнае значэнне. Яшчэ да прыходу рускіх па распараджэнні караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста сюды накіравалі будаўнікоў.

Войскі Маскоўскай дзяржавы знішчылі недабудаваны замак і ў хуткім часе пачалі ўзводзіць сваё ўмацаванні. Летам 1567-га будаўнічыя работы яшчэ працягваліся. Войскі ВКЛ не раз спрабавалі адбіць Улу. У лютым-сакавіку 1568-га замак тры тыдні безвынікова асаджалі воіны жамойцкага старасты Яна Геранімавіча Хадкевіча. Толькі ў канцы жніўня войскі гетмана, князя Рамана Сангушкі штурмам захапілі Улу і спалілі яе.

Пасля пачалі адбудоўваць замак, а да сярэдзіны 1570-га заснавалі і горад. Там сяліліся ў асноўным ацалелыя жыхары навакольных вёсак. Стымуляванне для развіцця горада вялося па апрабаванай на тэрыторыі ВКЛ схеме. Жыгімонт Аўгуст вясной 1571 года часова вызваліў мяшчан ад аплаты мытных збораў, ад падатку з вытворчасці і продажу алкагольных напояў.

Падчас Лівонскай вайны наваколлі Улы былі моцна спустошаны. І калі Жыгімонт Аўгуст прызначыў на пасаду «дзяржаўцы» ульскага князя Канстанціна Лукомскага, ён дадаткова распарадзіўся, каб той штогод атрымліваў з дзяржаўнай казны сто коп грошаў. «Мэру» папросту не было з каго збіраць падаткі і атрымліваць судовыя аплаты.

— Няспынныя баявыя дзеянні і пагроза знішчэння ўносілі істотныя карэктывы ў жыццёвы ўклад насельніцтва. Пры сціплых магчымасцях казны ВКЛ уладам цяжка было пастаянна ўтрымліваць тут значны наёмны гарнізон. І яны паспрабавалі вырашыць пытанне забеспячэння абароназдольнасці Улы іншым шляхам, які ўжо апрабавалі ў Віцебску і Суражы. 26 студзеня 1577 года кароль польскі і вялікі князь літоўскі Стэфан Баторый сваім прывілеем пашырыў на Улу сістэму гарадскога права, якая ў другой палове XVI стагоддзя ўжо функцыянавала ў Віцебску, — распавядае гісторык.

Асноўнай павіннасцю ульскіх мяшчан, як і віцебскіх, стала нясенне прэстыжнай коннай вайсковай службы. Падаткі яны не плацілі. Акрамя таго, мяшчане Улы атрымалі права на выбар войта, бязмытны гандаль, правядзенне двух кірмашоў у год. Сярод прывілеяў было і вольнае распараджэнне рухомай і нерухомай маёмасцю. Як і свабода выбару месца жыхарства на тэрыторыі ВКЛ. Таксама ім перадалі землі на адлегласці мілі вакол Ульскага замка.

Захаваліся дзве графічныя выявы Улы перыяду Лівонскай вайны. На першай з іх намалявана магутная драўляная крэпасць, збудаваная войскамі цара Івана IV і пазней знішчаная воінамі Рамана Сангушкі. Другая — праект замка з 9 бастэямі (вежамі), створаны па замове ўладаў ВКЛ у канцы 1568 года ў Італіі.

— Італьянскі праект так ніколі і не рэалізавалі ў поўным аб'ёме. Як сведчыць інвентар Улы ад 8 ліпеня 1581 года, праз 12 гадоў пасля стварэння праекта вал і бастэі існавалі толькі на вузкім адрэзку паміж рэкамі Улай і Дзвіной. З усіх астатніх бакоў замак быў агароджаны часткова звычайнымі зрубамі — «гароднямі». А часткова — нават прымітыўным вастраколам. На мысе пры зліцці рэк стаяла вежачка, — удакладняе даследчык.

Пасля заканчэння Лівонскай вайны Ула страціла стратэгічнае значэнне. Колькасць насельніцтва значна зменшылася. А ў першай палове XVII стагоддзя паселішча ўвогуле трапіла ў прыватныя рукі. 31 сакавіка 1648 года браслаўскі земскі суддзя Себасцьян Мірскі, уладар Улы, атрымаў ад караля польскага і вялікага князя літоўскага Уладзіслава Вазы прывілей на магдэбургскае права для свайго мястэчка. Дакумент прадугледжваў перавод насельніцтва Улы пад юрысдыкцыю войта ці лентвойта, якога прызначаў гаспадар паселішча.

Акрамя гэтага, кароль дазволіў Мірскаму, у выпадку, калі ён гэтага пажадае, стварыць пры намесніку-войце — магістрат. Такім чынам, у 1648 годзе мяшчанам Улы было нададзена магдэбургскае права. Аднак права на самакіраванне, уздзел у вырашэнні ўласнага лёсу праз сваіх прадстаўнікоў яны фактычна не атрымалі.

Гэта яскрава сведчыць пра тое, што «магдэбургскае права» і «гарадское самакіраванне» не зусім адно і тое.

**Аляксандр Пукшанскі**
**"Звязда"**

АРХЕАЛОГІЯ

# БУДЗІЛАЎСКІЯ «ТЫСЯЧНІКІ»

**Знайсці маладзевы экіпаж у Бешанковіцкім раёне не складана. На палях ЗАТ «АСБ-Агра Наватар» падчас жніва працуюць 16 камбайнаў «Палессе», шэсць МАЗаў і чатыры трактары. Энерганасычаных імпартных камбайнаў, якімі даўно не здзівіш на Міншчыне, ні ў гаспадарцы, ні ў раёне няма. Невялікія палі не дазваляюць разгарнуцца шырокім жаткам.**

Пакуль механізатары Павел Полазаў і Аляксандр Драздоў аглядалі свае «Палессе», атрымалася крыху пагутарыць. Абодва хлопцы родам з Будзілава, ды яшчэ і сваякі - дзядзька і пляменнік. Працуюць утандэме не першы сезон. Павел - больш дасведчаны, старэйшы і па ўзросце, і па «пасадзе». Гэта пятае жніво, у якім ён прымае ўдзел, тры гады запар з'яўляецца тысячнікам па намалоце. Механізатарскія правы атрымаў пасля заканчэння Гарадоцкага сельгасгаскаледжа. Адслужыў у арміі і вярнуўся. Абсалютна не сумняваецца: правільна абраў прафесію і пайшоў па слядах бацькі.

Работы на зямлі не баіцца. У механізатара свая сям'я, трое дзяцей - дзве дачкі чатырох і трох гадоў і двухгадовы сын. Паўтара гады таму сельгаспрадпрыемства ЗАТ «АСБ-Агра Наватар» вылучыла дом. Добры стымул!

Памочнік камбайнера Аляксандр толькі ў гэтым годзе скончыў школу, але для яго цяперашняе жніво трэцяе. Як і яго настаўнік, ужо станавіўся камбайнерам-тысячнікам. Каб працягнуць адукацыю, падаў дакументы ў Гарадоцкі каледж. Не збіраецца нікуды з'язджаць з вёскі. Упэўнены, тут можна добра жыць. Галоўнае не ленавацца. У аграгарадку Ржаўка, цэнтры гаспадаркі, для моладзі створаны нармальныя ўмовы для працы і адпачынку. Вечарамі ў Дом культуры на дыскатэку ходзяць. Ёсць клуб і ў суседнім Будзілаве.

Жніво дае магчымасць зарабіць больш. У мінулым годзе Павел намалаціў тысячу тон збожжа і атрымаў прыкладна 1100 рублёў. Не вельмі вялікія грошы, але ўсё ж лепш, чым на ворыве. На працу зараз прыходзяць а шостай раніцы, а сканчаюць бліжэй да дзевяці вечара. Калі ўначы прайшоў дождж, то тэхніка можа прастаяць і да абеду, пакуль каласы не абветрэюцца. З-за невялікіх плошчаў поля яны дрэнна прадзьмухваюцца вятрамі, ды і тэмпература паветра ў паўночным рэгіёне ніжэй у параўнанні з Міншчынай або Гомельшчынай.

З словаў дырэктара ЗАТ «АСБ-Агра Наватар» Дзмітрыя Петрашкі, маладых работнікаў у іх шмат. З агульнай колькасці камбайнераў ў Бешанковіцкім раёне больш за ўсё моладзі менавіта з гэтага сельгаспрадпрыемства. Ва ўборачнай кампаніі яны цягнуцца за старэйшымі, а часам і задаюць тэмп. Да таго ж маладзевыя экіпажы і кіроўцы спаборнічаюць.

**КАМЕНТАР**

Старшыня Бешанковіцкага райвыканкама (на момант інтэрв'ю - намеснік начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання) Андрэй Булаўкін:

- Усяго ў Бешанковіцкім раёне трэба будзе абмалаціць 14 200 гектараў збожжавых і 2200 гектараў рапсу. На палях задзейнічаны 64 камбайны і 65 МАЗаў і трактароў. Механізатарскі атрад цалкам ўкамплектавалі, на дапамогу прыцягнулі людзей з раённых дарожных і прамысловых арганізацый, а таксама з Віцебска. Падрыхтаваны 19 зернесушыльных комплексаў, некаторыя з іх здольныя перапрацоўваць да пяцісот тон збожжа. Два комплексы працуюць на газе, астатнія на дызельным паліве. Пяць з 19 сушылак - перасоўныя. Сказаць пра тое, які будзе ўраджай 2017 года, пакуль складана, ўборачная кампанія пачалася менш за тыдзень таму. Пакуль плануем атрымаць 35-40 цэнтнераў з гектара. Самы затратны артыкул падчас палявых работ - ГЗМ. Для набыцця гаруча-змазачных матэрыялаў раёну выдзелены таварны крэдыт - 298 тон паліва. Грошы ў банк паступаюць са спецрахунку малочных камбінатаў. Сельгаспрадпрыемствы пера-крэдытаваныя на 2,5 мільярды рублёў. Яны таксама пойдуць на набыццё ГЗМ. Гэтага цалкам хопіць, каб правесці ўборачную кампанію.

Ураджайнасць рапсу вышэй на 4,5 цэнтнеры, чым у 2016 годзе, - 16,7 цэнтнера з гектара. Паказчык вышэй за сярэдні па вобласці. Гэта звязана з лепшымі ўмовамі надвор'я, якія станоўча адбіліся на фармаванні ўраджаю збожжавых і зернебабовых. Замаразкаў вялікіх не было, у перыяд наліву зерня вільгаці хапала. Застаецца спадзявацца, што дажджы дазволяць нам у кароткія тэрміны і якасна правесці жніво.

**"Савецкая Беларусь"**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

“КАНЦЭПЦЫЯ”

# УСЁ Ў ІМЯ ЧАЛАВЕКА, УСЁ ДЗЕЛЯ ЧАЛАВЕКА!

**…І вось з нявызначанасцю пераўтварэнняў было скончана. Па меншай меры, так мне спачатку падалося. Падчас рабочай паездкі ў Віцебскую вобласць АП вызначыў канцэпцыю развіцця Беларусі. Слова «вызначыў» я запазычыў з афіцыйнага прэс-рэлізу. Яно здзівіла мяне сваёй невыразнасцю, сваёй неадпаведнасцю велічы моманту.**

Я адчуў тое, што ў псіхалогіі прынята называць «кагнітыўным дысанансам». На шчасце, працягваўся ён нядоўга. Ужо на наступны дзень самая салідная газета краіны выправіла хібу рэдактара прэс-рэлізу: АП не «вызначыў», а «абвясціў» новую канцэпцыю развіцця. Накіраваная яна будзе «на стварэнне ў населеных пунктах рознага ўзроўню якасных умоваў для жыцця людзей».

Усё ў імя чалавека, усё дзеля чалавека! Ну як тут не запляскаць у ладкі! Я ж яшчэ памятаю 1961 год і XXII з'езд партыі з яго выдатным лозунгам. Шкада, што перайсці ад слова да справы тады не атрымалася. Вінай таму, як пазней высветлілася, быў валюнтарызм Хрушчова. Але мы не паўторым яго памылак і не наступім другі раз на тыя ж граблі. Дый адкуль у Беларусі ўзяцца палітыку-валюнтарысту (з граблямі, дзякуй Богу, праблем няма)?

Яшчэ адзін важны момант: генеральны сакратар КПСС ішоў ад абстрактных схем, а мы ідзем ад жыцця, мы ідзем ад вынікаў эксперыменту ў гарадскім пасёлку Копысь, старт якому АП даў сваім распараджэннем у лістападзе 2016 года. Вынікі ўражваюць. За няпоўны год удалося ўладкаваць інжынерна-транспартную інфраструктуру, у тым ліку зрабіць рэканструкцыю вулічна-дарожнай сеткі; стварыць новыя сацыяльныя, гандлёвыя, турыстычныя і спартыўныя аб'екты; правесці мадэрнізацыю дзеючых прадпрыемстваў. «Пры гэтым, — падкрэслена ў прэс-рэлізе, — улічваліся пажаданні мясцовых жыхароў».

Карціна ўражвае. Заплюшчваю вочы — і бачу сярэднестатыстычнага жыхара гарадскога пасёлка, які даводзіць да спецыялістаў з Мінска свае пажаданні наконт уладкавання інжынерна-транспартнай інфраструктуры.

Вось такі ўзор для пераймання ўсёй краіне. І ўсё гэта ў максімальна сціслыя тэрміны, якасна і нядорага! І ўсё гэта ў год навукі! Такі наш адказ на выклік чацвёртай прамысловай рэвалюцыі!

**Інтрыгоўная назва**

Узор («прыклад для пераймання») створаны. Што далей? А далей кожны год у кожным раёне плануецца ў двух падобных пасёлках наводзіць парадак, і праз пяць гадоў «такім чынам замыкаецца вертыкаль аднаўлення краіны: Мінск — абласныя цэнтры — райцэнтры — пасёлкі гарадскога тыпу — аграгарадкі — вёскі, якія раней былі цэнтрамі гаспадарак».

Але тут у мяне нечакана кальнула ў левым боку. Копысь у якасці ўзору быў абраны не таму, што гэта месца нараджэння АП. Выбар быў звязаны перш за ўсё з тым, што АП «добра ведае гэтыя месцы і можа асабіста пракантраляваць якасць, неабходнасць і запатрабаванасць тых ці іншых мер па развіцці населенага пункта».

Але такіх пасёлкаў у нас 60–70. Другога АП у нас няма, а для арганізацыі якаснага кантролю патрэбна больш за паўсотні такіх «адзіных палітыкаў». Вось дзе праблема! Да «замыкання вертыкалі аднаўлення краіны» засталося пяць гадоў. Дзе гарантыя, што яна замкнецца ў тэрмін і з належнай якасцю?

Жартаваць можна і далей. Але я два разы перачытаў прэс-рэліз і тры разы — інтэрнэт-варыянт газетнага артыкула, аднак так і не зразумеў навізны канцэпцыі. Сваё неразуменне я выказаў у каментары да артыкула на сайце, аднак не меў спадзяванняў на персанальнае тлумачэнне. Якія там спадзяванні! Маё пытанне рэдакцыя нават не адважылася размясціць на сайце.

Каб падвесці тэарэтычную базу пад новую канцэпцыю, нам спатрэбіцца кніга амерыканскага сацыёлага Дж. Скота «Добрымі намерамі дзяржавы. Чаму і як правальваліся праекты паляпшэння ўмоў чалавечага жыцця». Інтрыгоўная назва, пагадзіцеся.

Адразу павінен папярэдзіць, што ў кнізе абагульнены вопыт дзяржаўных праектаў прынцыпова іншага маштабу. У прыватнасці, «Вялікага скачка» ў Кітаі, калектывізацыі ў СССР, прымусовага збору людзей у вёскі ў Танзаніі, Мазамбіку і Эфіопіі. Тым не менш я паспрабую перанесці высновы паважнага навукоўца на родную зямлю.

**Першы, другі, трэці, чацвёрты**

Трагічным фіналам пералічаных вышэй дзяржаўных праектаў спрыяла спалучэнне чатырох элементаў. Першы з іх — адміністрацыйнае памкненне, накіраванае на прывядзенне ў парадак прыроды і грамадства. Адкрыем прэс-рэліз ад 4 чэрвеня. Слова «парадак»




згадваецца ў ім чатыры разы: тры разы з дзеясловам «навесці» і адзін раз — з дзеясловам «падтрымаць».

Такія суадносіны не павінны здзіўляць. Перш, чым заняцца падтрыманнем парадку, яго неабходна спачатку навесці. А вось з гэтым праблема! У ліпені пайшоў 24-ы год, як распачаўся працэс «навядзення парадку».

Другі элемент — гэта вера ў навукова-тэхнічны прагрэс, у магчымасць панавання над прыродай і — галоўнае — у рацыянальнасць сацыяльнага парадку. Важна падкрэсліць, што гаворка ідзе менавіта пра веру, якую не варта блытаць з сур'ёзнай навуковай практыкай. Так, АП не толькі верыць у магчымасць адкрыцця ў невялікіх населеных пунктах вытворчасцяў на ўзроўні лепшых сусветных стандартаў, але і ў тое, што «мы ўжо больш чым палову шляху ў гэтым плане прайшлі».

Аднак — падкрэслівае Дж. Скот — спалучэнне фактараў становіцца смяротна небяспечным, толькі калі да першых двух элементаў далучаецца трэці. Гэты элемент — аўтарытарная дзяржава, якая жадае і здольная выкарыстоўваць усю сваю ўладу, каб увасобіць у жыццё ёю ж распрацаваныя праекты.

За прыкладамі далёка хадзіць не трэба. Спадзяюся, беларусы не забыліся трохразовую дэвальвацыю і трохзначную інфляцыю ў 2011 годзе, справакаваныя жаданнем «дзяржавы для народа» ашчаслівіць беларусаў сярэднім заробкам у 500 долараў. Дарэчы, вінаватыя за гэту высакародную ініцыятыву не толькі не былі прыцягнутыя да адказнасці, аднак нават пайменна не названыя.

Чацвёрты элемент, цесна звязаны з трэцім, — слабая грамадзянская супольнасць, няздольная супраціўляцца планам аўтарытарнай дзяржавы. Супраць лому няма прыёму! Але для падаўлення ўсяго, што праяўляе жаданне самастойна рухацца (незалежныя прафсаюзы, СМІ і г.д.), дзяржава прымяняе не толькі лом, але і псеўдаструктуры грамадзянскай супольнасці. Як тут ні прыгадаць афіцыйныя прафсаюзы з іх фенаменальнай здольнасцю «гнеўна маўчаць»…

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**“Новы Час”**

НАРАДА

# ГАЛОЎНЫ ГЕРОЙ ЖНІВА

**З нарады, праведзенай Аляксандрам Лукашэнкам 21 жніўня з кіраўніцтвам эканамічнага блёку, можна зрабіць некалькі важных высноваў. Абмяжуюся трыма.**

**1.** Ад абмеркаваньня стратэгічных пытаньняў Лукашэнка ўсяляк ухіляецца, абмяжоўваецца тактычнымі. Бо стратэгічныя пытаньні — гэта пытаньні аб рэформах. Якіх ён ня хоча, пазьбягае нават вынясеньня на парадак дня такой тэмы. Таму вялікая нарада аб справаздачы ўраду, анансаваная яшчэ па выніках першага кварталу, усяляк адцягваецца. Сам кіраўнік дзяржавы папярэдзіў: «Такая справаздача запланаваная, яна будзе ў свой час, калі я палічу патрэбным або час падыдзе». Цяпер час не прыйшоў. Бо ўрад дакладае аб пачатку эканамічнага росту. І Расея дала чарговы крэдыт. А, як вядома, рэформы пачынаюцца, калі ўсё вакол дрэнна.

**2.** Сам Лукашэнка фактычна прызнаў, што адміністрацыйныя мэтады вырашэньня эканамічных праблемаў не працуюць. Найбольш яскрава гэта выявілася ў пытаньні ліквідацыі беспрацоўя.

Як вядома, Лукашэнка аддаў загад да 1 траўня ўладкаваць усіх непрацоўных. І чыноўнікі далі адпаведную справаздачу, што задача выкананая. Міністар працы і сацыяльнай абароны Ірына Касцевіч адрапартавала: «Мы дайшлі да кожнага чалавека... Хто хацеў, той, вядома, быў працаўладкаваны». То бок улады запэўнілі, што цяпер у краіне калі і ёсьць беспрацоўныя, то па сваёй віне, яны ня хочуць працаваць.

Але хутка высьветлілася, што ўсё гэта фарс, лухта, фальсыфікацыя. Што цяпер вымушаны быў прызнаць і сам Лукашэнка: «Яшчэ летась мы дамаўляліся, што на кожнае скарочанае працоўнае месца павінна быць створана новае высокапрадукцыйнае. А ў нас па-ранейшаму прадпрыемствы працягваюць больш звальняць, чым прымаць на працу. Прынамсі, паводле той інфармацыі, якой я валодаю. У чым справа?... На паперы новыя працоўныя месцы быццам бы і ствараюцца, а на справе суцэльнае ашуканства... Як мяне інфармуюць, колькасьць занятых у эканоміцы скарачаецца».

І вось на нарадзе высьвятляюцца цікавыя падрабязнасьці. Лукашэнка, кажучы пра льняную галіну, пытае: «…Калі мяне правільна праінфармавалі, чаму сёньня на складах ільнокамбінату залежы тканіны? Ня дай Бог гэта так!».

Гэта значыць, разважаючы пра выдатныя пэрспэктывы вытворчасьці льну, забыліся згадаць маленькую дробязь: няма рынкаў збыту для беларускай прадукцыі (!). Гэта і ёсьць эканоміка па-беларуску. Калі вытворчасьць ладзіцца дзеля таго, каб заняць людзей. І толькі потым высьвятляецца, што прадукцыю няма куды падзець.

**3.** І самы шэдэўральны сюжэт з нарады, дзе Лукашэнка крытыкуе журналістаў: «Памылка журналістаў складаецца ў тым, што яны ўсюды пішуць пра нейкі гераізм на ўборцы ўраджаю, у тым ліку прэзыдэнта. Ніякага гераізму на ўборцы няма. Гэта спрошчаны падыход да таго, што раблю я і ўсе тысячы людзей, якія сёньня занятыя ў тым ліку ўборкай. Гаворка ідзе выключна пра харчовую бясьпеку нашай краіны».

Як усім вядома, сьціпласьць Аляксандра Рыгоравіча ня мае межаў. Адзін зь фірмовых элемэнтаў непаўторнага палітычнага стылю Лукашэнкі — гэта сьцьвярджэньне ў форме адмаўленьня. Гэта калі ён кажа, што я стаміўся ад улады, я яе «наеўся», рад быў бы пакінуць сваю пасаду, але ж народ не адпускае. Так і тут. Ён не адмаўляе, хто галоўны герой жніва, але ж у сілу сваёй прыроднай сьціпласьці мякка папікае дзяржаўных журналістаў. Маўляў, «гэта спрошчаны падыход да таго, што раблю я і ўсе тысячы людзей, якія сёньня занятыя ў тым ліку ўборкай». Заўважце, я — на першым месцы, і толькі потым — тысячы людзей. Складваецца ўражаньне, што «герой жніва» сам да канца не ўсьведамляе гэтую няхітрую піяраўскую апэрацыю, яна адбываецца на ўзроўні падсьвядомасьці. У гэтым ён шчыры, бо краіна павінна ж ведаць сваіх герояў.

*(скарочана)*

**Валер Карбалевіч**
**“Радыё Свабода”**

“ТУНЕЯДЦЫ”

# ПОЧЕМУ ЛУКАШЕНКО ХОЧЕТ ЗАСТАВИТЬ ВСЕХ РАБОТАТЬ?

**Чиновники найдут тунеядцев и дадут им в зубы по лопате. Генератор идеи — президент. Александр Лукашенко снова заговорил о безработных и скандальном декрете о тунеядцах. Он еще раз подчеркнул, что в Беларуси все должны работать.**

«Людей надо приучить к труду. Нельзя создавать так называемый класс безработных. Если мы их не станем вовлекать в общественно полезный труд, как раньше говорили, значит, мы будем создавать этот класс, и он будет увеличиваться. Нам этого допустить нельзя», — сказал глава государства во время рабочей поездки по Брестской области…

Он напомнил о новой версии декрета № 3, после выхода которой местным властям дадут самые широкие полномочия. «Мы вычленим людей по персоналиям: кто может, но не хочет, кто хочет, но не может, и тех, которым надо лопату в зубы — и пошел работать. Пусть на меня не обижаются», — сказал Александр Лукашенко.

Стоит отметить, что глава Беларуси не в первый раз хочет заставить всех белорусов работать. Он даже предлагал, как это можно сделать на одном из совещаний в марте этого года.

… «Надо определить места, куда должны прийти люди за работой, создать бригады, группы, которые будут лес высаживать, заборы строить, красить, убирать территорию, копать, возить, носить и прочее. И мы займем всех людей», — заявлял глава Беларуси.

**Невозможно всех заставить работать**

Руководитель аналитического центра «Стратегия» Леонид Заико считает озвученные президентом идеи «нормальным деревенским подходом периода развитого социализма».

«Это гимн физическому труду. Он считает, что физическая работа — это и есть труд. Ничего подобного! Есть работа, есть труд и есть деятельность. Работа — это просто затраты физической и психической энергии. Труд — это целенаправленная деятельность человека на изменение вещества природы. А деятельность — это разносторонняя реализация способностей человека. Президент этих различий не видит. И окружающие его люди тоже не видят. Может быть, они решили все упростить так, чтобы было понятно валенку, но эпоха валенок уже прошла», — отмечает экономист.

По его словам, сейчас мир уходит от физического труда, становится все большей людей, которые занимаются различной деятельностью.

«Это может быть благотворительная деятельность, деятельность по образованию, по самосовершенствованию и прочее, поэтому мы не можем людей заставить ходить на какое-то предприятие в качестве наемного работника», — подчеркивает Леонид Заико.

К тому же, приводит цифры экономист, в обществе всегда есть 3-5% социально неустойчивых людей. В Беларуси это может быть около 300 тысяч человек. Как правило, это люди, склонные к алкоголизму и наркомании. С ними, по мнению руководителя аналитического центра «Стратегия», нужно проводить социальную работу, в результате которой в стране снизится число преступлений.

«Нам важнее, чтобы эти люди не становились опасными для окружающих, а если им нравится спать на помойке, то с этим ничего не поделаешь. Чего его гнать на работу?! Поэтому желание нашей власти заставить идти к станку, это постановка 1937 года. Это старые идеи, которые не имеют отношение к современному миру», — считает Леонид Заико…

*(скарочана)*

**Александр ЯРОШЕВИЧ**
**http://naviny.by**

“ПЕДСАВЕТ”

# ЛУКАШЕНКО И ОБРАЗОВАНИЕ: РЕФОРМ НЕТ, НО ВСЕ СТОЯТ НА УШАХ

**При отсталой политической системе не может быть передовой школы. А вот пустой муштры — до черта и больше. В Минске на два дня собрали под тысячу педагогов и чиновников. Это мероприятие напоминает Всебелорусское народное собрание, только узкого профиля. И по большому счету столь же показушно (при том что какая-то польза от обмена опытом и демонстрации новинок, конечно, есть).**

Дело в том, что концептуальные вопросы (а именно этот акцент анонсировался: мол, обсудим подходы аж до 2030 года) не решаются на таких многолюдных сходах, не имеющих эффективного алгоритма выработки свежих сильных идей.

Смешно думать, что при доминанте заорганизованности и ориентации на априорную мудрость главного участника кто-то с голоса, короткой репликой (государственные СМИ рекламировали накануне формат открытого микрофона) убедит высокое начальство изменить подходы к сфере образования. Да и не всякого умника ведь подпустят к тому микрофону. Так что это не широкий диалог, а имитация.

**Общая нелюбовь к реформам detected**

Нет, ну вроде как логично, что перед учебным годом глава государства приходит на разговор с учителями и прочими деятелями образовательной сферы. Но политологи считают, что здесь главенствует иная логика — пиаровская. В последние недели Лукашенко резко повысил публичную активность. И в этом смысле неважно, с комбайнерами ли он засвечивается или с учителями. Главное — показать электорату, что вождь энергичен, уверен в себе и четко знает, что делать.

Хотя на самом деле Лукашенко упорно уходит от решения главных вопросов — реформирования экономики (без чего не будет и крепкой материальной базы у образования, без чего миллионы молодых людей не смогут реализовать себя по полной программе).

Президент же раз за разом переключается на мелочи. Если аграрная сфера, то акцентируется на важности силосных траншей, грезах о создании суперкомбайна, особенностях теребления льна и пр. Если образовательная, то муссирует тему времени начала занятий в школе (с 8 или 9 часов), пяти/десятибалльной системы оценок (хотя сам сегодня признал, что этот вопрос «не основной»).

Да, а общая нелюбовь к реформам проявилась и сегодня, когда Лукашенко заявил: «Вы знаете мои подходы по преобразованию, совершенствованию, где-то реформированию системы нашего образования. Сущность этих подходов состоит в том, что я категорически против какой-то ломки, даже реформирования в полном смысле этого слова».

**Волюнтаризм рулит**

Официальный лидер не упустил момента снова потоптаться по политическим противникам. Прозрачно намекнул на нелюбимых националистов, которые в первой половине 1990-х якобы «за два-три года пытались научить всех нас разговаривать на том языке, на котором они хотят...», «вообще начали ломать все подряд. И точные науки, и естествознание, гуманитарные направления нашего образования».

Да, в гуманитарной сфере сдвиги тогда были, например в преподавании истории стало меньше белых пятен, москвоцентризма. Заметьте: сейчас, после Крыма, сам Лукашенко начал апеллировать к древности корней белорусской государственности, подчеркивать, что Полоцкое княжество старше Московского. То есть де-факто стал на позиции ненавистных, как он их называет, «нацменов» (при том что политические репрессии против «свядомых» — возьмите «дело патриотов» — продолжаются).

Что же касается точных наук, то неужели в 90-х, при проклятых националистах (которые на самом деле и тогда, на заре независимости Беларуси, находились в оппозиции), дважды два в школе было пять?

На самом деле образование у нас нещадно корежат волюнтаристскими новациями именно в президентскую эпоху. Чего стоил один переход с 12-летки на 11-летку с ликвидацией профильных классов, урезанием специализированного обучения и часов на иностранные языки! Потом эти перегибы стали тихо устранять, но на кой ляд было вообще махать административной шашкой?

По указанию сверху приходится раз за разом лихорадочно переиначивать школьные программы, переписывать учебники (которых в итоге просто не хватает — ни хороших, ни плохих, вообще никаких). Причем некоторые коррективы в программы по истории, литературе сильно напоминают политическую цензуру, попахивают Оруэллом.

Такие спонтанные, идущие от дилетантизма и ретроградства перемены лишь напрягают преподавателей и учащихся, усиливают элемент муштры, но при этом качество образования падает, образовательная система по большому счету деградирует.

И нет настоящих преобразований в европейском смысле слова. Беларусь авансом приняли в Болонский процесс, но отрабатывать этот аванс державные мужи не спешат. Оно и понятно: Европа с ее гнилым либеральным духом здешней системе власти чужда, от всяких болонских заморочек типа университетской автономии, выборности ректоров тянет душком крамолы, подрыва устоев. Ишь чего проталкивают! У нас любые выборы — под колпаком, самодеятельность но пасаран.

В Беларуси, напротив, образование сделали оплотом политического застоя. Учителя массово рекрутируются в избирательные комиссии, которые из кампании в кампанию обеспечивают «элегантные победы» правящей верхушке и ее ставленникам. Студентов гонят на досрочное голосование, а потом — цигель-цигель, ай-лю-лю, в деревню к маме за салом, а не шастать по площадям, где заваривает кашу оппозиция.

Короче, лояльность учителя и ученика, студента — на первом месте, остальное уже мелочи…

**Человеческому потенциалу нужна рамочная свобода**

Вообще спичрайтеры, конечно, вставили в речь руководителя ряд формально бесспорных тезисов. Например, Лукашенко заявил с трибуны совещания, что «нам предстоит большая работа по развитию человеческого потенциала».

Действительно, сегодня место страны в мире, а главное — ее перспектива определяется не наличием грозных ракет, не территорией или прочими экстенсивными атрибутами, даже не залежами благословенной нефти, а именно интеллектом, способностями людей. Продвинутостью народа, если хотите.

Белорусы смышлены, быстро схватывают новое (посмотрите: 92% экспорта Парка высоких технологий со свистом уходит в ЕС и Америку), у нас формально высокий уровень образованности. По этому параметру мы соответствуем критериям передовых стран. Но вот политический режим — отсталый, скорее характерный для третьего мира.

И вот как раз замшелость режима прежде всего тормозит развитие человеческого потенциала. Этому процессу мешает отсутствие минимума рамочной свободы во всех сферах. Так что тут не учителей понукать и не детишек дергать надо, а всю систему менять.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**http://naviny.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 28.08.2017 у 15.35**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.